



# КРЫВІНКА

СНЕЖАНЬ
№16 (280)
2021 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




НАША ГІСТОРЫЯ

## НАВУКОВАЕ АБГРУНТАВАННЕ ЎЗНІКНЕННЯ НАЗВЫ «БЕШАНКОВІЧЫ»

**У другім нумары часопісу «ARCHE» за 2021 год быў апублікаваны артыкул Алеся Мікуса «Адкуль Бешанковічы». Пра што ён разважаў?**

Гэты тапонім (назва Бешанковічы) з'явіўся з часоў першай паловы 15-га стагоддзя, калі на рубяжах Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) рассялялі старалітоўскіх памежнікаў, надаючы там ім землі. Гэтых тапонімаў амаль няма на Задзьвінні, а па левым беразе Дзьвіны яны ідуць досыць раўнамерна, цэлымі "гнёздамі". Асабліва буйныя гнёзды знаходзяцца каля Дзісны, Вушачаў і перад Бешанковічамі.

"Рэч у тым, - піша Алесь Мікус, - што шэраг тапонімаў паказвае паходжанне некаторых прыбылых пераселенцаў."

У бешанкоўскім гняздзе найбольш вядомы з тапонімаў – Бачэйкава, і на захад ад яго Радунь і Гайнаўшчына. Іхнімі верагоднымі прататыпамі з'яўляюцца Радунь – каля Ліды і Гайна – каля Лагойска.

Нашыя бешанковіцкія Лелюкі, на думку аўтара, маглі б мець прататыпам Лелюкі каля Іўя.

І Бешанковічы з гэтага шэрагу. Бо каля той жа Ліды ёсць Бешанкі.

Назва звязаная з балцкімі (літоўскімі) антрапонімамі (прозвішчамі) Bešys, Bešenas. Гэтыя прозвішчы, згодна са "Слоўнікам літоўскіх прозвішчаў", у Літве ўсе фіксуюцца досыць кампактна, вакол вёскі Bešiai ("Бешы") на правым беразе Вяллі каля Коўна (Каўнас).

Гэта зусім не значыць, што назвы прыйшлі адтуль. Хоць пачатковы корань, відаць, сапраўды Веš- і форма тыпу Bešys.

З назвай Бешанкоў перагукаецца вядомы з "Літоўскай метрыкі" такі Якоўъ Бешенка з Забердава, з-пад Наваградка.

Пры гэтым надвялейская "бешаўская" лакацыя (размяшчэнне) не адзіная, з якой перагукаюцца Бешанкі з-пад Ліды. Яшчэ аналогія – назва Bešoni ёсць у Латгаліі.

"Назва Бешанковічы, як выглядае, - робіць выснову Алесь Мікус, - нясе ў сабе ажно чатыры фрагменты, якімі быў узбагачаны першапачатковы корань (Беш-ан-к-ов-іч-ы). Пазьнейшыя насленні зрабілі і назву непразрыстай і пачатковы корань ледзьве прыкметным."

**Г.Станкевіч**

ПАДАТКІ

## ПАДАТАК НА ГРЫБЫ І ЯГАДЫ

**На сайце Міністэрства фінансаў з’явіўся новы праект зменаў у Падатковы кодэкс. З яго вынікае, што ад ранейшай ідэі збіраць падаходныя падаткі з тых людзей, якія атрымліваюць даходы з прадукцыі, вырашчанай ці выгадаванай на сваім прысядзібным участку, чыноўнікі не адмовіліся.**

Збіраць гэтыя падаткі плануюць не з усіх пагалоўна, а толькі з тых, хто тлумачыць наяўнасць у сябе вялікіх грашовых сумаў ці набытай буйной маёмасці атрыманнем даходаў ад вядзення прысядзібнай гаспадаркі ці збірання грыбоў, ягад і лекавых раслін у лясах.

Сума, з якой у такіх выпадках даход будзе пачынаць абкладацца падаткам – 200 базавых велічынь, на сёння гэта 5800 рублёў.

Раней такія планы ў чыноўнікаў ужо ўзнікалі, але ад іх, здавалася, пасля адмовіліся. Некалькі папярэдніх варыянтаў, у тым ліку і тыя, якія прайшлі праз Палату прадстаўнікоў і Савет Рэспублікі, былі без іх. Але выглядае, што ідэя па-ранейшаму жывая.

**“Наша Ніва”**

**Партал твайго горада: http://beshankovichy.by**

## ****

*Мінулай ноччу выпаў першы снег.*
*Ён шыбаваў*
*разведаным маршрутам:*
*узяў у сіняй Арктыцы разбег –*
*над маёй вёскай скочыў*
*з парашутам.*

*Па сцежцы крочыў,*
*быццам чалавек,*
*шукаў начлег сярод былінак ломкіх,*
*а малады дубок ў густой траве*
*трымаў яго ў лістках,*
*нібы ў далоньках.*

*Ён толькі ўвесну ўбачыў белы свет,*
*глядзеў на ўсё*
*з цікаўнасцю дзіцячай.*
*Здавалася яму, не белы снег,*
*а быццам цуда нейкае ён бачыць.*

*Старыя галінастыя дубы*
*трымалі цішыню*
*ў маўклівых кронах,*
*а гэты на дзіця падобны быў,*
*такі ж вясёлы і безабаронны.*

*Я не стрываў і да яго падбег,*
*адчуў цяпло дрыготкае далоняў.*
*Здарыўся цуд: халодны белы снег*
*мяне гарачай марай запалоніў.*

**Г. Станкевіч**

НОВЫ ГОД

## ПРАДАЮЦЦА ЯЛІНКІ З ЛЯСНІЦТВАЎ

**Набыць ялінкі можна будзе са складоў лясніцтваў (Бешанковіцкага, Вярхоўскага, Пяцігорскага, Ульскага, Чашніцкага), а таксама на гандлёвых кропках у г.Віцебска.**

Усяго лясгасы паўночнага рэгіёну на перадсвяточных елачных кірмашах плануюць рэалізаваць каля 30 тыс. ялінак. Для зручнасці насельніцтва рэжым работы базараў будзе максімальна прадоўжаны. У асартыменце гандлёвых кропак традыцыйна будуць ялінкі, а таксама ялінкавыя букеты і ялінкі ў кадках. Ялінкі ў кадках традыцыйна карыстаюцца ў насельніцтва павышаным попытам, таму аб'ём іх рэалізацыі плануем павялічыць.

При куплі ялінак у лясніцтве кошт за дрэва складзе:

да 1 метра складзе 8 руб., 50 кап. (11 р., 50 кап. на гандлёвай кропцы ў г.Віцебск)
- ад 1 да 2 метраў - 10 руб. 50 кап. (14 р. 50 кап. на гандлёвай кропцы ў г.Віцебск)
- ад 2 да 3 метраў - 14 руб. 50 кап. (21 р. 00 кап. на гандлёвай кропцы ў г.Віцебск)
- ад 3 да 4 метраў – 23 руб. 10 кап (34 р.50 кап. на гандлёвай кропцы ў г.Віцебск)
– ад 4 да 5 метраў – 28 руб.40 кап. (45 р. 00 кап. на гандлёвай кропцы ў г.Віцебск)

Купля навагодніх ялінак у кадках абыдзецца: да 1м у 19 руб. 00 кап., а да 2 м у 21 руб. 00 кап. (да 1м у 22 руб. 60 кап., а да 2 м у 24 руб. 60 кап. на гандлёвай кропцы ў г.Віцебск)

У перыяд перад галоўным зімовым святам для работнікаў дзяржаўнай лясной аховы актуальнай становіцца рэйдавая работа, накіраваная на спыненне незаконных высечак ялінак. Будзе арганізавана патруляванне лясоў паблізу ад населеных пунктаў, дарог і хвойных маладнякоў. Таксама будуць выстаўлены пасты, у тым ліку сумесныя з супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі. У перадсвяточныя дні дзяржлесахова мае намер актыўна выкарыстоўваць камеры фота- і відэафіксацыі.

У грамадзян, якія перавозяць ялінкі, будуць правяраць дакументы, якія пацвярджаюць іх набыццё. Самавольная высечка ялінкі пагражае фізічнай асобе накладаннем штрафу ад 5 да 30 базавых велічынь (1 БВ - Br29), індывідуальнаму прадпрымальніку – ад 20 да 200 БВ, юрыдычнай асобе – ад 50 да 300.

**Бешанковіцкі лягас**

COVID-19

## ШТО ТАКОЕ «ОМІКРОН»?

**«Омікрон», які ўпершыню быў выяўлены ў Батсване і Паўднёвай Афрыцы ў лістападзе, за апошнія некалькі тыдняў распаўсюдзіўся па ўсім сьвеце – хутчэй, чым любая раней вядомая форма каранавірусу.**

Навукоўцам яшчэ трэба шмат зразумець пра «Омікрон», але тое, што яны ўжо ведаюць, ясна дае зразумець, што гэты варыянт можа выклікаць вялікую колькасьць новых выпадкаў у наступныя тыдні, і што ён можа паставіць некаторыя нацыянальныя сыстэмы аховы здароўя на мяжу магчымасьцяў.

Навукоўцы ўпершыню распазналі «Омікрон», дзякуючы яго адметнай камбінацыі з больш за 50 мутацый. Некаторыя зь іх у парадку экспэрымэнту былі перанесеныя ў больш раньнія варыянты, такія як «Альфа» і «Бэта», і папярэднія вынікі паказалі, што гэтыя мутацыі могуць спрыяць хуткаму распаўсюджваньню каранавірусу. Вядома, што іншыя мутацыі «Омікрону» дапамагаюць яму ўхіляцца ад антыцелаў, якія выпрацоўваюцца вакцынамі.

26 лістапада Сусьветная арганізацыя аховы здароўя назвала «Омікрон» «варыянтам, які выклікае занепакоенасьць» і заявіла, што глябальныя рызыкі, зьвязаныя з ім, «вельмі высокія».

З таго часу гэты варыянт быў выяўлены больш чым ў 80 краінах.

Папярэдні імунітэт працуе ня вельмі добра. Першыя сьведчаньні, што «Омікрон» можа пазьбегнуць імунітэту, прыйшлі з Паўднёвай Афрыкі, дзе, паводле ацэнак навукоўцаў, ня менш за 70 працэнтаў людзей перахварэлі на COVID-19 у нейкі момант пандэміі. Але аказалася, што большая частка выпадкаў захворваньня «Омікронам» зафіксаваная ў тых, хто раней быў інфікаваны іншымі штамамі.

Калі «Омікрон» рэзка распаўсюдзіўся у Вялікай Брытаніі, навукоўцы выявілі, што і там людзі, інфікаваныя новым варыянтам, раней ужо хварэлі на COVID-19. Паводле ацэнак дасьледнікаў, рызыка паўторнага заражэньня пры «Омікроне» прыкладна ў пяць разоў вышэйшая, чым пры іншых варыянтах.

*(працяг на стар. 2)*

COVID-19

Для больш глыбокага разумення рызыкі паўторнага заражэння навукоўцы вывучылі антыцелы, што выпрацоўваюцца ў людзей, якія выздаравелі ад COVID-19. Калі гэтыя антыцелы былі змешаныя ў кубку з іншымі штамамі каранавірусу, антыцелы эфэктыўна прадухілялі заражэньне чалавечых клетак.

Некалькі дасьледаваньняў паказваюць, што поўная вакцынацыя і бустэрная прышчэпка забясьпечваюць надзейную абарону ад заражэньня «Омікронам». Аднак без рэвакцынацыі дзьве дозы такіх вакцын як Pfizer-BioNTech і Moderna забясьпечваюць значна меншую абарону. Разам з тым, мэдыкі лічаць, што дзьве дозы вакцыны, верагодна, сапраўды абараняюць ад цяжкай формы хваробы, выкліканай «Омікронам».

Навукоўцы ўзялі кроў у цалкам прышчэпленых людзей і зьмяшалі іх антыцелы з «Омікронам» у кубку Пэтры, запоўненым чалавечымі клеткамі. Вакцыны Pfizer-BioNTech і Moderna нэўтралізоўвалі «Омікрон» горш, чым іншыя штамы. А вось антыцелы людзей, што атрымалі вакцыны AstraZeneca або Johnson&Johnson, падобна, наогул нічога не змаглі зрабіць супраць «Омікрону».

Затое калі дасьледнікі пратэставалі антыцелы людзей, якія атрымалі бустэры, яны ўбачылі іншую карціну. Узмоцненыя антыцелы блякавалі заражэньне клетак шматлікімі вірусамі штаму «Омікрон».

Дасьледнікі выявілі аналягічную рэакцыю, калі паглядзелі на людзей, што былі цалкам вакцынаваныя дзьвюма дозамі пасьля заражэньня COVID-19: іх антыцелы былі надзвычай эфэктыўныя супраць «Омікрону».

Рэальныя дасьледаваньні пацьвярджаюць вынікі гэтых экспэрымэнтаў. У Паўднёвай Афрыцы дасьледнікі выявілі, што эфэктыўнасьць дзьвюх доз вакцыны Pfizer-BioNTech супраць інфэкцыі «Омікронам» складае ўсяго 33 працэнты.

У Вялікабрытаніі навукоўцы выявілі, што людзі, якія атрымалі дзьве дозы вакцыны AstraZeneca, праз шэсьць месяцаў пасьля вакцынацыі ня мелі ніякай абароны ад «Омікрону». Дзьве дозы Pfizer-BioNTech мелі эфэктыўнасьць усяго 34 працэнты. Але бустэр Pfizer-BioNTech меў 75-працэнтную эфэктыўнасьць супраць «Омікрону».

Гэтыя вынікі актывізавалі намаганьні ў галіне вакцынацыі і стымулявалі шырокамаштабныя кампаніі рэвакцынацыі ў многіх краінах, бо людзі і ўрады вырашылі падрыхтавацца да рэзкага павелічэньня выпадкаў «Омікрону» ў найбліжэйшыя тыдні.

*(скарочана)*

**Нью-Ёрк Таймс**

# ЗАСЦЕРАГАЕМСЯ АД COVID-19

**У распараджэнне ЦРБ паступіла вакцына вытворчасці Расійс-кай Федэрацыі "КовіВак" для прафілактыкі каранавіруснай інфекцыі.**

Прэпаратуводзіццадвойчы ў перадплечча, з інтэрвалам у 14 дзён. У адпаведнасці з інструкцыяй, гэты від вакцыны прызначаны для насельніцтва ва ўзросце ад 18 да 60 гадоў.

Па наяўных даследаваннях, частата ўзнікнення мясцовых рэакцый на прышчэпку дадзеным прэпаратам менш, чым ад вакцынацыі прэпаратам "Спадарожнік V".

Асноўныя супраць-паказанні да ўжывання "КовіВак":

- цяжарнасць,
- цяжкія алергічныя рэакцыі на кампаненты вакцыны ў анамнезе,
- узрост да 18-ці гадоў.

Вакцынацыю можна праводзіць праз 2-4 тыдні пасля акрыяння, калі захворванне COVID-19 працякала лёгка, і адразу пасля акрыяння пры лёгкіх вірусных захворваннях.

Запрашаем на вакцынацыю ў паліклініку ЦРБ (прышчэпачны кабінет), у прыёмны пакой ЦРБ – у выхадныя дні і ў вячэрні час. Таксама працуе пункт вакцынацыі на базе РЦК (субота), перасоўны пункт вакцынацыі ў нядзелю на рынку г. п. Бешанковічы. У наяўнасці маюцца таксама вакцыны "Спадарожнік V" (РФ) і Vero Cell (Кітай).

***"Зара"***

# ЯК БЕЛАРУСЫ ХВАРЭЛІ НА COVID -19

**«Каранавірус ударыў па маёй нервовай сістэме: пачалася дэпрэсія»**

Марыі 28 гадоў, яна працуе інжынерам-электрыкам на дзяржаўным прадпрыемстве. Дзяўчына перахварэла на кавід тры разы. Першы – у маі 2020 года, другі – у кастрычніку мінулада года, а трэці – зусім нядаўна, у лістападзе.

«Першы раз у мяне тэмпература была высокая некалькі дзён, адразу забалела горла, я пачала кашляць, – расказвае дзяўчына. – Выклікала доктара, ён сказаў, што прастуда. Мне дастаткова доўга не рабілі тэст.

Тэмпература спачатку некалькі дзён дарастала да 39, а потым трымалася на ўзроўні 37,5. Яна збівалася, але была жудасная слабасць. Нават цяжка было дайсці да прыбіральні. Таму я першыя некалькі дзён спала і больш нічога не магла рабіць. Амаль не ела, не адчувала смаку».

Калі Марыя хварэла першы раз, ёй зрабілі тэст на каранавірус праз два тыдні ад адкрыцця бальнічнага. Увесь другі тыдзень дзяўчына хадзіла ў паліклініку і скардзілася, што дрэнна сябе адчувае.

«Мне прапісалі антыбіётыкі. Я іх прапіла некалькі дзён, але яны не дапамаглі, – кажа Марыя. – Дактары прызначылі іншы антыбіётык, потым трэці. І калі пасля трэцяга нічога не адбылося, толькі тады ўзялі тэст. Каранавірус пацвердзіўся, далі аўтаматычна бальнічны яшчэ на тры тыдні. Атрымліваецца, я хварэла больш за месяц».

Яшчэ падчас першага звароту ў паліклініку Марыі зрабілі флюараграфію і рэнтген, а таксама праверылі ўзровень кіслароду.

«Усё было чыста. Доктарка слухала, лёгкія былі чыстыя і кісларод быў у норме, – успамінае дзяўчына. – Па адчуваннях, першы раз пераносіўся вельмі цяжка. Нават калі спадала тэмпература, была проста жудасная слабасць. Я зрабіла тэст на антыцелы пасля таго, як перахварэла першы раз. Антыцел было шмат, таму я вырашыла здаць сваю плазму як донар. Каб дапамагчы людзям, якія хварэюць».

**«Трэці раз быў для мяне найлягчэйшы»**

З першай хваробы Марыі прайшло чатыры месяцы – і нечакана дзяўчына захварэла другі раз. Гэта быў кастрычнік 2020 года.

«Я падумала, што проста прастыла. Адпрасілася з працы, каб падлячыцца за выхадныя. Але зноў стала паднімацца тэмпература, забалела горла і пачаўся кашаль, – кажа Марыя. – Звярнулася ў паліклініку – з такой тэмпературай мне не хацелі даваць бальнічны. Я папрасіла зрабіць тэст на каранавірус, а доктар адмовіла. Сказала, маўляў, калі вы хочаце выявіць каранавірус, – ідзіце платна здавайце. Я пайшла. У той жа дзень прыйшоў адказ: тэст станоўчы. Я нават потым напісала скаргу на доктара з-за гэтага.

Як пераносіла хваробу ў другі раз? Па адчуваннях, было лягчэй, але я хварэла вельмі доўга. Два месяцы была тэмпература. Прычыну так і не знайшлі: аналізы, КТ зрабілі, УГД. Але ўсё было нармальна».

Як і пасля першай хваробы, смак да Марыі вярнуўся хутка, літаральна праз некалькі дзён. Але не цалкам. Дзяўчына больш не можа есці курыцу.

«Не ведаю, чаму так, але не магу. Катлеты таксама не ем. З мясам ёсць пытанні пасля таго, як другі раз перахварэла, – расказвае яна. – Яшчэ адно з ускладненняў: каранавірус ударыў па маёй нервовай сістэме. У мяне пачалася дэпрэсія. П'ю цяпер лекі».

Але на гэтым гісторыя Марыі і хваробы не скончылася. Трэці раз дзяўчына захварэла ў снежні 2021 года. Зноў тэмпература і боль у горле.

«Тры дні я проста спала па 15 гадзін. Потым пайшла рабіць платны тэст. Зноў паказала два плюсы, – успамінае яна. – Але трэці раз для мяне быў найлягчэйшы».

Упэўненая, што заразілася кавідам на працы, таму што ў мяне там шмат людзей. І пасля таго, як я захварэла другі раз, у нас амаль увесь аддзел злёг. Канечне, першы раз было страшна. Бо тады хворых яшчэ ў Беларусі было мала. І людзі не разумелі, што гэта за зараза. Мы з мужам выконвалі з самага пачатку масачны рэжым.

Хадзілі толькі на працу і ў краму. Але калі я хварэла першы раз, – муж не захварэў. Другі раз я хварэла ў кастрычніку, а муж захварэў толькі ў снежні разам з усім офісам».

«Дарэчы, вакцыны я не рабіла. Я не супраць прышчэпкі ўвогуле, але я хачу зрабіць вакцыну, якая будзе дзейнічаць усюды. Думалі паехаць у Еўропу і недзе там зрабіць прышчэпку. На момант, калі хварэла, у мяне быў толькі свой імунітэт. Вельмі спадзяюся, што чацвёртага разу са мной не адбудзецца», – заключае яна.

**«Змяніўся смак – цяпер мне брыдка есці цытрусавыя»**

Аляксею 20 гадоў, хлопец працуе спецыялістам у сферы IT. Ён хварэў на кавід тры разы: першы раз – у сакавіку 2020 года, другі – праз 8 месяцаў, трэці – у сакавіку 2021.

«Першы раз, калі хварэў, увогуле не было ніякіх сімптомаў. Проста праз 48 гадзін зніклі ўсе смакі, і я зразумеў, што гэта кавід, – расказвае малады чалавек. – Паехаў здаваць адразу тэст, і ён аказаўся станоўчым. Цячэнне хваробы было звычайнае – як прастуда. Была невялікая тэмпература – 37,5. Большую частку хваробы перанёс на нагах, адчуваў сябе нармальна. У другі раз усё было нашмат складаней – тэмпература пад 38, хацелася шмат спаць. А трэці раз зноў як першы. Амаль без сімптомаў».

Усе тэсты на каранавірус хлопец рабіў платна. Але калі прыйшоў да доктара, там сказалі, што медыкаментаў не будзе: маўляў, калі стане горш, тэлефануйце ў «хуткую».

«Можна іх зразумець. Бо бываюць выпадкі нашмат цяжэйшыя, чым у мяне, таму я супраць нічога не меў, – кажа хлопец. – Сказалі, што трэба есці шмат вострага, рассмоктваць пасцілкі ад кашлю, піць сіроп і прэпараты, якія разрэджваюць кроў. Калі параўноўваць усе тры разы, то па адчуваннях першы і трэці раз былі найлягчэйшымі, а другі самы цяжкі. Пасля кожнага разу я здаваў кроў на антыцелы. Памятаю, што пасля трэцяй хваробы, у мяне было больш за 50.

Мне неяк асабліва не тлумачылі, чаму я захварэў ажно тры разы. Сказалі, што аслаблены імунітэт. Дарэчы, тата хварэў двойчы ў лёгкай форме, а мама да гэтага часу ні разу не хварэла. Хоць яна нас з татам увесь час лекавала».

Аляксей зусім нядаўна вакцынаваўся. Перад гэтым кансультаваўся з дактарамі. Нягледзячы на частыя хваробы і пытанні з імунітэтам, дактары парэкамендавалі не адкладваць прышчэпку. Так хлопец зрабіў «Спутнік».

З пабочных эфектаў пасля трох хвароб Аляксей называе пагаршэнне памяці, цяжкасці з дыханнем і праблемы са смакам.

«Бегаць шмат не магу – адышка, – расказвае ён. – Змяніўся смак – цяпер мне брыдка есць цытрусавыя. Смак, дарэчы, вярнуўся не адразу. Пасля трэцяга разу – не адчуваў смаку дзесяці месяцаў».

**«Перанесла ўсе чатыры разы ў лёгкай форме»**

22-гадовая Ганна працуе кухарам і вельмі часта па працы кантактуе з людзьмі. Ганна хварэла на кавід ажно чатыры разы. Адзін з іх пасля сутак на Акрэсціна.

«Першы раз трапіла ў першую хвалю, у сакавіку 2020 года, – адзначае яна. – Потым другі, трэці і адзін раз быў пасля Акрэсціна. У сакавіку 2021 года я на 13 сутак патрапіла ў ІЧУ на Акрэсціна. Там мы захварэлі ўсёй камерай. Калі выйшла, пайшла ў паліклініку, расказала сітуацыю і папрасіла накіраванне на тэст. Яны далі, і тэст быў станоўчым».

Хваробу першы раз дзяўчына перанесла досыць лёгка: пахі ў яе не зніклі, а тэмпература была невысокая. Другі раз «карону» яна падхапіла прыкладна праз 3–4 месяцы.

«Паміж усімі астатнімі разамі ў мяне быў таксама прамежак прыкладна 3–4 месяцы, – расказвае дзяўчына. – Перанесла ўсе чатыры разы ў лёгкай форме. Кожны раз хадзіла ў паліклініку і прасіла накіраванне на тэст. Давалі неахвотна, вядома, але давалі. Бальнічны давалі на тры тыдні, але я аднаўлялася ўсё роўна потым даўжэй. Пасля нейкага разу я здавала аналіз на антыцелы, іх не было шмат».

Прышчэпку дзяўчына не рабіла, таму што пасля першага захворвання ў яе пачаўся імунадэфіцыт. Дактары заявілі, што яе не лечыцца і трэба піць таблеткі.

«Я яшчэ не дайшла да імунолага, каб даведацца, ці можна рабіць прышчэпку. Але так я хаджу ў масцы, апрацоўваю рукі ўвесь час, з'явілася стомленасць моцная пасля ўсіх гэтых хвароб. Мама мая перахварэла адзін раз, а ўсе астатнія дамашнія не хварэлі, прывыклі, што я часта хварэю. Спадзяюся, што пятага разу не будзе, але я на ўсялякі выпадак рыхтуюся», – адзначае Ганна.

***"Наша Ніва"***

## АБ'ЯВА

***• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Крывінка» паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.***

***• Калі прачыталі "Крывінку", то калі ласка, перадайце знаёмым.***

***• Наша газета стала размяшчаецца на партале <u>http://kamunikat.org</u>, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: <u>http://kamnikat.org/kryvinka.html</u> каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

СВЯТА

# «ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ! СЛАВІМ ЯГО!»

**Перад святочным днём Божага Нараджэння Віцебскі біскуп па традыцыі падрыхтаваў свой віншавальны зварот да вернікаў.**



Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, людзі добрай волі!

Надзея займае адметнае месца сярод духоўных рысаў чалавека. Бо пакуль яна існуе, мы гатовыя пераносіць нават вялікія выпрабаванні. Таму так важна, каб яна была моцнай. Асабліва зараз, калі свет усё яшчэ стаіць перад выклікам пандэміі, калі між краінамі трывае напружанасць, а спакой застаецца ўсё яшчэ толькі нашай марай.

Сярод гэтага смутку і няпэўнасці зноў чутны воклік: «Хрыстос нарадзіўся! Славім Яго!» Гэта не проста даніна рэлігійнай традыцыі, афарбаванай святочнай дэкарацыяй, ці спроба забыцца на нейкі час, акунуўшыся ў святочную мітусню. Гэта — вызнанне праўды, з якой бярэ пачатак тая самая надзея, якая трымае нас пры жыцці. Больш за тое, надзея, якая выводзіць нас нават па-за межы зямнога жыцця! Бо «...хто верыць у Мяне, мае жыццё вечнае»! (Ян 6,47).

Наша культура і цывілізацыя моцна закаранёныя ў хрысціянскіх каштоўнасцях. Усё тое лепшае, што сёння маем, так ці інакш звязана з адкрытай нам у Святым Пісанні Божай Мудрасцю, якая знайшла сваё найвышэйшае праяўленне ва ўцелаўлёным Божым Слове. Слове, якое «...сталася целам і пасялілася між намі» (Ян 1;14).

Менавіта Божая Мудрасць заўсёды ратавала чалавека, калі ён быў ёй паслухмяны. І наадварот, клопаты і праблемы ўзнікалі тады, калі гэтая Мудрасць была адкінутай і забытай. Такога досведу мы маем ужо дастаткова.

Паспрабуйма наноў прыняць уцелаўлёнае Слова ў сваё жыццё! Тым больш, што гэтае Слова не патрабуе асаблівага месца і не прэтэндуе на шмат нашага часу. Каб нарадзіцца сярод людзей, Яно не пагардзіла нават стайняй для жывёлаў і было шчаслівым ад хвіліннай увагі простых пастушкоў. Паспрабуйма наноў адкрыць для сябе Божую Мудрасць! Няхай яе стане крыху больш у нашым жыцці!

Нованароджаны Збаўца няхай агорне сваёй ласкай кожнага з вас, усю нашу Краіну і ўвесь свет, каб мы, прызнаўшы над сабой уладу Яго Міласэрнай любові, станавіліся здольнымі самі дзяліцца гэтай любоўю з іншымі!

Здароўя, радасці, спакою і Божага бласлаўлення на ўвесь надыходны 2022 год!

Са Святам!

***Алег Буткевіч***
***Біскуп Віцебскі***
***catholicnews.by***

САНКЦЫІ

# «ГАЛОЎНАЕ — ЛІКВІДАВАЦЬ ПРЫЧЫНУ САНКЦЫЙ...»

**Старшыня Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук заклікае афіцыйныя прафсаюзы скіраваць свае высілкі на тое, каб ліквідаваць найперш прычыну з'яўлення санкцый, а потым патрабаваць іх адмены, піша Народная Воля.**

У выніку ўвядзення Еўрасаюзам і ЗША эканамічных санкцый супраць беларускіх кампаній пад абмежаваннямі апынуліся 22 прадпрыемствы. У санкцыйным спісе чатыры прамысловыя прадпрыемствы, якія маюць стратэгічнае значэнне для эканомікі: «Гродна Азот», яго філіял «Завод Хімвалакно», «Беларуснафта» і «Белшына». Адмыслоўцы схільны лічыць, што з пачатку свайго паўнацэннага дзеяння санкцыі істотна паўплываюць на беларускую эканоміку.

Прафсаюзы Беларусі ў сваю чаргу пачалі збор подпісаў пад адкрытым лістом у адрас Міжнароднай арганізацыі працы, рабочых і наймальнікаў іншых краін. Ліст змешчаны ў інтэрнэце. Нагадаем: у ім гаворыцца аб тым, што еўрапейскія чыноўнікі не маюць права абмяжоўваць правы работнікаў іншых краін. Увядзенне падобных мер у дачыненні да беларускіх прадпрыемстваў, на думку складальнікаў ліста, не з'яўляецца выказваннем патрабаванняў працоўных. Дарэчы, у змешчаным у сецiве закліку афіцыйных прафсаюзаў да грамадзян, каб яны ставілі свае подпісы пад лістом, удакладняецца, што гэта справа абсалютна добраахвотная. І нават даюцца адрасы, куды звяртацца, калі прымушаюць ставіць подпіс альбо, наадварот, не ставіць.

«Народная Воля» звярнулася да старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука з просьбай пракаментаваць сітуацыю.

Паводле слоў спадара Ярашука, прафсаюзы нідзе ў свеце не заклікаюць да санкцый, паколькі гэта супярэчыць іх мэтам. А таму дзіўным найперш з'яўляецца адрасат, да якога звяртаюцца беларускія афіцыйныя прафсаюзы. На яго думку, больш істотна тое, як ліквідаваць прычыну ўвядзення санкцый супраць беларускіх прадпрыемстваў.

— А прычына добра вядомая — гэта рэпрэсіі супраць рабочых, захоп самалёта з грамадзянамі Еўрасаюза, гэта міграцыйныя атакі на суседзяў з Еўрасаюза, — удакладняе Ярашук. — І зразумела, што нельга адмовіць і краінам Еўрасаюза ў адстойванні сваіх граніц і ўласнай бяспекі.

Аляксандр Ярашук трымаецца думкі, што ўлады павінны неадкладна пачаць дыялог з апанентамі, якім бы цяжкім ён ні быў, і сумесна дамаўляцца, як выходзіць з гэтага вострага палітычнага і сацыяльна-эканамічнага крызісу.

— Калі гэта будзе адбывацца, то можна спадзявацца на тое, што і мы будзем пачуты іншымі краінамі, якія ўвялі санкцыі, — пераканаы Ярашук. — Выхад у гэтай сітуацыі адзіны — нацыянальны дыялог. Іншага папросту няма.

Што датычыцца таго, як збіраюцца подпісы, кіраўнік Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў кажа, што ў дадзенай сітуацыі кожны чалавек павінен сам вырашаць, як яму паступаць.

— Да нас калі і звяртаюцца людзі са скаргамі на прымус, то толькі з умовай, каб ні ў якім разе не называлі прозвішча, — канстатуе Ярашук. — Але калі ніхто не будзе называць прозвішча, то ніхто і рабіць нічога не будзе, бо ад імя каго тады рабіць?

На жаль, паводле слоў Ярашука, людзі ў дадзенай сітуацыі працягваюць баяцца, хаця праз гэту боязь могуць згубіць усё ў сваім жыцці.

***"Народная воля"***

ПРЫСУДЫ

# УЛАДЫ ЦЯПЕР ЖЫВУЦЬ У АДЧУВАННІ ТАГО, ШТО ІХ ЗНОЎ ПАСПРАБУЮЦЬ РАЗГОЙДВАЦЬ

**Адыходзячы тыдзень запомніцца жорсткімі прысудамі па «справе Ціханоўскага», а таксама вынікам працэсу над блогерам Эдуардам Пальчысам, якога асудзілі на 13 гадоў калоніі. Па просьбе «Филина» палітычны аглядальнік Арцём Шрайбман ацаніў рэакцыю на вердыкты судоў, а таксама іх магчымыя наступствы.**

На думку эксперта, выносячы такія суровыя прысуды, улады маглі пераследаваць некалькі мэтаў:

— Гэта помста канкрэтна гэтым людзям, Ціханоўскаму ў прыватнасці. Таму што ўлада лічыць, што ён і яго каманда першымі запусцілі не толькі хвалю пратэстаў, але і працэс дэсакралізацыі Лукашэнкі.

Яшчэ адна мэта — прэвентыўная, лічыць Арцём Шрайбман. Запалохванне грамадства ў цэлым, запалохванне блогераў, бо большасць з асуджаных — блогеры. Застрашванне, каб такое не паўтарылася зноў.

— Бо ўлады цяпер жывуць у адчуванні таго, што іх зноў паспрабуюць разгойдваць.

Акрамя таго, гэта можа быць сігналам, пасланым сваім прыхільнікам:

— Глядзіце, якія тэрміны мы даем. Мы ўпэўненыя, што мы будзем правіць менавіта столькі. Як мінімум 10-15 гадоў мы будзем на гэтым месцы.

Гаворачы аб рэакцыі грамадства на апошнія навіны з судоў, эксперт адзначыў:

— Мне здаецца, што ўсе больш-менш прывыклі да жорсткіх тэрмінаў палітычным лідарам і ключавым блогерам. Не ўпэўнены, што гэта новая якасць шоку для беларусаў, але для людзей, якія сімпатызуюць пратэстам, гэта былі вельмі дэпрэсіўныя дні.

Арцём Шрайбман нагадаў, што пра прысуд Ціханоўскаму выказаліся не толькі на Захадзе, але і ў Расіі, у тым ліку і прапаганда.

Палітычны аглядальнік не ўпэўнены, што прысуды па «справе Ціханоўскага», а таксама 13-гадовы тэрмін Пальчысу стануць прычынай для ўвядзення санкцый:

— Санкцыі зараз выклікаюцца дзеяннямі Мінска на знешняй арэне, дэстабілізуючымі крокамі. Правы чалавека ідуць у санкцыйных рэзалюцыях хутчэй прычэпамі. Спецыяльна з-за прысудаў санкцыі ніхто не ўводзіць. Можа быць, гэтая практыка зменіцца ў будучыні, але пакуль яна такая.

Як гэтыя суды могуць паўплываць на беларускае грамадства?

— Я не думаю, што гэта акажа нейкі новы ўплыў на беларусаў за межамі таго, што і так робяць рэпрэсіі з грамадствам. Страх — гэта падаўленне волі, апатыя. Яны наступалі і да гэтага прысуду, і працягнуць наступаць і далей, калі ўлады працягнуць рабіць тое, што робяць.

Не думаю, што хтосьці памяняе свой пункт гледжання пасля такога хай і брутальнага прысуду.

***"Новы Час"***

ВІЦЕБШЧЫНА

# ПОЧЕМУ ЛУКАШЕНКО СНЯЛ С ДОЛЖНОСТИ ШЕРСТНЁВА

**Об этом Лукашенко заявил сегодня во время представления Александра Субботина новым председателем Витебского облисполкома. Он подчеркнул, что области, откровенно говоря, хвалиться особо нечем.**

— За последние семь лет валовой региональный продукт сократился более чем на восемь процентов. Это много! В текущем году регион единственный, где продолжает снижаться ВРП в основном за счет строительства и сельского хозяйства. У нас просели эти отрасли, откровенно говоря, практически во всех областях. В последние годы ухудшаются многие показатели развития села. Снижены посевные площади и объемы сбора сельскохозяйственных культур. Сократилось поголовье крупного рогатого скота, производство молока и яиц. Причины — низкая организация труда, несоблюдение агротехнических сроков и регламентов, — отметил Александр Лукашенко. — Исполнительская дисциплина ни к черту! И не надо говорить, что у вас не хватает кадров. Что есть, с тем и работаете.

— Работа агропромышленных

*(працяг на стар. 4)*

ВІЦЕБШЧЫНА

(пачатак на стар. 3)

объединений остается убыточной. Без государственной поддержки убыточны 72 процента сельскохозяйственных организаций области. Очевидно, что региону нужна перезагрузка. Если хотите — серьезная встряска. И у меня это не заржавеет! Сделайте, пожалуйста, за зиму соответствующие выводы. Поэтому мной принято решение о назначении на Витебщину молодого перспективного руководителя, для которого ваш край является родной землей, —Александра Михайловича Субботина.

— Он непосредственно принимал участие в разработке новых подходов к развитию агрокомплекса, созданию объединений. В определенной степени является их соавтором. Уверен, понимает, как все должно быть реализовано на практике. Прежде всего необходимы строжайшая технологическая и исполнительская дисциплина, экономия всех ресурсов. Новый губернатор как человек науки, думаю, это прекрасно понимает.

— Остро нуждается в модернизации материально-техническая база агропромышленного комплекса. Уменьшилось число используемой сельхозтехники: тракторов — на десять процентов, зерноуборочных и прочих комбайнов — на 30 процентов. Поэтому доставайте из-под заборов все, что может передвигаться и работать, и восстанавливайте.

— Ряд формальных показателей в кадровой работе обращают на себя внимание и вызывают тревогу. Только за последние пять лет трижды сменялись руководители в Шумилинском и Оршанском райисполкомах, дважды — в Браславском, Толочинском, Дубровенском и Бешенковичском... Что это за работа? Полтора-два года — и другой руководитель! Александр Михайлович, вам предстоит разобраться в причинах такой ситуации и найти решения, выстроить четко работающую кадровую вертикаль области. Отсутствие системности в работе с кадрами в регионе недопустимо.

**www.sb.by**

ВІНШАВАННЕ

# «МЫ ПАВОДЗІЛІ СЯБЕ ДОБРА Ў АДЫХОДЗЯЧЫМ ГОДЗЕ»

**Былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі і палітвязень, якому прысудзілі 14 гадоў калоніі, напярэдадні навагодніх святаў напісаў адмысловы віншавальны ліст.**



— Мне вельмі хацелася, каб прыйшлі нарэшце ў нашу краіну, у нашы сем'і і нашы душы часы, калі ты б чуў у навагодніх віншаваннях фразы тыпу: адыходзячы год быў выдатны, але новы будзе яшчэ лепш, — цытуе Віктара Бабарыку яго прэс-служба. — Бо мы гэтага вартыя! Мы паводзілі сябе вельмі добра ў адыходзячым годзе, і Дзед Мароз заахвочвае наш рух да добрага і светлага. Цуд прыходзіць да цудоўных людзей. А такіх сярод беларусаў — большасць! Шчасця, дабра і веры ў сябе!

СУСТРЭЧА

# ПЯТЬ «ГЕНИАЛЬНЫХ» СОВЕТОВ

**15 декабря Александр Лукашенко провел встречу с активом Витебской области. Общение отметилось тем, что местные власти рискнули озвучить ряд жалоб. Какой же была реакция правителя? Рассказываем — коротко.**

**О ремонте больницы: «С шапкой ходите по области»**

Витебская областная больница построена в 1980-х годах и с тех пор практически капитально не ремонтировалась. В областном бюджете средств на это нет.

Реакция Лукашенко (цитируется по его пресс-службе):

— Будем напрягаться и закупать оборудование. А палаты, внешний вид — это уже сделаете сами. Упирайтесь, напрягайтесь в сельском хозяйстве, промышленности, собирайте деньги, с шапкой ходите по области, но это хотя бы сделайте.

**Об обновлении концертной базы «Славянского базара»: «У вас что, нет этих (других) проблем?»**

Когда Лукашенко сказали, что необходимо обновить концертную базу «Славянского базара», правитель, судя по сообщению его пресс-службы, перевел разговор на другую тему:

— Мы всегда говорим, что у нас проблема с кадрами, зарплатами. У вас что, нет этих проблем?

**О кадровых проблемах в медицине: «Обязательно отработка»**

Лукашенко рассказали о дефиците кадров в медучреждениях малых населенных пунктов. В ответ он посоветовал удерживать молодых специалистов, в том числе, с использованием административного ресурса:

— Обязательно отработка. В наше время просто держать, удержать, не пускать — тяжело. Если тебя государство подготовило, а ты решил куда-то переехать или уехать, отработай или заплати и езжай. Тогда подумают тысячу раз.

**О нехватке жилья: «Мы иногда искусственно создаем проблему»**

Была затронута и тема жилищного строительства. В ответ правитель посоветовал бороться с «жуликами»:

— Как я убедился, мы иногда искусственно создаем проблему в жилищном строительстве, отдав это жуликам, особенно в Минске и областных центрах.

**О низких зарплатах в культуре: нецелесообразно содержать большие библиотеки на селе**

Правителю доложили, что самые низкие зарплаты в области в библиотеках, в школах искусств. Его реакция: отдельно содержать большие библиотеки в сельской местности нецелесообразно.

**О модернизации в агропромышленном комплексе: «Доставайте из-под заборов все и восстанавливайте»**

Материально-техническая база агропромышленного комплекса остро нуждается в модернизации. В области уменьшилось число используемой сельхозтехники: тракторов — на 10%, комбайнов — на 30%.

Совет Лукашенко: — Поэтому доставайте из-под заборов все, что может передвигаться и работать, и восстанавливайте.

...

Занавес.

**gazetaby.info**

РАЗВАЖАННІ

# «... ДА ІХ У ЛЮБЫ МОМАНТ МОЖА ПАСТУКАЦЬ ГУБАЗІК»

**Кіраўнік Беларусі 16 снежня правёў вялікую нараду з эканамічным блокам ўрада, казалі аб санкцыях і спробах ім супрацьстаяць.**

Праўда, гэтым тэмы не скончыліся, шмат было сказана пра тое, што і сярод кіраўніцтва краіны хапае людзей з «антыдзяржаўнымі поглядамі», Лукашэнка нават прапаноўваў ім ехаць у Польшчу і Літву і ўладкоўвацца да апазіцыі.

Пра вынікі нарады Филин пагаварыў з палітолагам Валерыем Карбалевічам.

— Галоўнае з пачутага — гэта спроба мабілізацыі дзяржаўнага апарата на рашэнне задач, якія стаяць перад рэжымам: процідзеянне санкцый, правядзенне рэферэндуму, спроба растлумачыць сітуацыю наменклатуры. Усім гэтым дзяржава займаецца ўжо больш за год, нічога асаблівага я не ўбачыў, — адзначае эксперт.

**Чаму Лукашэнка стаў гаварыць аб тым, што сярод чыноўнікаў шмат тых, хто яго не падтрымлівае?**

— На самай справе — гэта адлюстраванне рэальнасці. Як бы Лукашэнка ні казаў, што яго праціўнікі — гэта «купка адмарозкаў», але высвятляецца, што нават на кіруючых пасадах дзяржаўных прадпрыемстваў ёсць яго апаненты. Гэта разбурае ўсю карціну, якую выбудоўвае дзяржаўная прапаганда паўтара года.

Па-другое, гэта папярэджанне, што ён за ўсім сочыць, усё ведае, каб ніхто не спрабаваў выступаць супраць яго.

Разам з тым, былі новыя тэзісы адноснага таго, што не трэба звальняць тых, хто падпісаўся супраць яго на мінулых выбарах. У пэўным сэнсе — гэта змена тону і стылістыкі.

Магчыма, Лукашэнка спрабуе гуляць у лібералa, а дзеянні сілавікоў як быццам праходзяць не з ягонай ініцыятывы. У нешта падобнае гуляў Сталін, калі крытыкаваў тых, хто перагнуў палку калектывізацыі, абвінавачваў Яжова ў тым, што занадта шмат людзей расстраляў і арыштаваў.

Да гэтага часу сэнс пасланняў з боку ўладаў быў наступным: вас білі, вас катавалі, і мы будзем далей так рабіць. Тыя ж вялікія тэрміны ў «справе Ціханоўскага» арыентаваныя на тое, каб запалохаць людзей. А сённяшнія заявы трохі ў іншы бок.

Атрымліваецца, ёсць і кіраўнікі з «антыдзяржаўнай пазіцыяй», але не трэба звальняць тых, хто падпісаўся супраць яго. Гэта частая з'ява, калі ў выступах Лукашэнка суседнічаюць ўзаемавыключальныя тэзісы. Чыноўнікі пасля такога не разумеюць, што ж ім рабіць: бегчы ці стаяць.

Як любы аўтарытарны кіраўнік, Лукашэнка нікому не давярае, усіх падазрае. Невыпадкова адбываюцца ўсе гэтыя кадравыя змены. Вельмі характэрна, што ён лічыць: свой пункт гледжання можна мець толькі ў Літве, але не ў Беларусі.

**Жывуць цяпер у страху прадстаўнікі ўлады?**

— Страхам назваць гэта, можа, няправільна, але ёсць перманентны стрэс. З аднаго боку, людзі чакаюць, што да іх у любы момант можа пастукаць ГУБАЗіК (не важна па якой прычыне, у гэтай сістэме ніхто не абаронены), а з другога — баяцца, што ў выпадку змены ўлады стануць адказнымі, усё ж нешта падпісвалі, кагосьці звальнялі.

Стрэс з двух бакоў. Яны бачаць, што тыя чыноўнікі, якія сышлі з пасадаў публічна, галоўныя ворагі і здраднікі, іх судзяць, садзяць у турму, але і не забываюць аб магчымых наступствах сваіх дзеянняў.

**"Філін"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.12.2021 у 15.45**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.